**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 45 (813) 5 лістапада 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**У Гарадскім цэнтры культуры, на Дзяды, адкрылася выстава твораў мастака, нашага земляка, Эдуарда Мацюшонка.**
*Працяг на стар 5.*
Фота Ул. Скрабатуна.



## МНС інфармуе
**на 03.11.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 724;
Гібель людзей – 75, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 29;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 591,1 млн. руб.



ISSN 2077-8023



## Глыбоцкі раён

# На валаску ад гібелі

■ Станіслаў Раманчук.

**Спецыялістам добра вядома, што львіная доля пажараў (больш 65 %) з цяжкімі наступствамі і гібеллю людзей адбываецца штогод менавіта ў асенне-зімовы перыяд.**

Вось чаму на тэрыторыі ўсёй вобласці на працягу месяца, да 20 лістапада ўключна, будзе праходзіць чарговая прафілактычная акцыя "За бяспеку сумесна" з мэтай зменшыць колькасць вогненных трагедый і чалавечых бедаў. Падчас яе правядзення ў Глыбоцкім раёне ўжо раз была даказана эфектыўнасць прымаемых супрацьпажарных мер. Каля апоўначы ў дзяжурную часць мясцовага райаддзела МНС паступіла паведамленне аб тым, што загарэўся жылы дом у вёсцы Ясевічы. У тую ноч яго гаспадара разбудзіў сігнал аб небяспецы аўтаномнага пажарнага апавяшчальніка. Мужчына своечасова пакінуў памяшканне і не пацярпеў. Да прыезду пажарных машын агонь ужо палыхаў адкрытым полымем і неўзабаве быў патушаны. Аднак вогнішча знішчыла страху хаты, пашкодзіла сцены, перакрыццё столі і маёмасць вяскоўца. Прычыны ўзнікшага пажару будуць устаноўлены пазней, аднак галоўнае, што прыбор у чарговы раз выратаваў жыццё чалавеку. Апавяшчальнік, дарэчы, быў устаноўлены ў гэтай хаце некалькі гадоў назад з дапамогай сродкаў сельсавета, а гаспадар паклапаціўся, каб ён працаваў, бо батарэі сілкавання хапае на год, яе трэба перыядычна мяняць. Падчас акцыі "За бяспеку сумесна" выратавальнікі ў ходзе рэйдаў будуць правяраць стан апавяшчальнікаў АПІ і пячнога ацяплення, спраўнасць электраправодкі і нагадваць людзям, наколькі важна ведаць і выконваць элементарныя правілы супрацьпажарнай бяспекі.

## Пастаўскі раён

# Нядоўга музыка гучала

■ Кастусь Александровіч

**Толькі лічаныя тыдні мінулі пасля завяршэння прэзідэнцкіх выбараў, і адразу застарэлыя эканамічныя праблемы і цяжкасці далі ведаць пра сябе з новай сілай.**
Вось і ў Пастаўскім раёне з 15 дзеючых гаспадарак толькі дзве мелі дастаткова сродкаў на разліковых рахунках, каб неяк жыць і развівацца. У палове мясцовых сельгаспрадпрыемстваў зусім не было паліва і грошай для яго набыцця. Яшчэ сем гаспадарак краю не пералічылі ніводнага рубля за спажытую электраэнергію, таму энергетыкі абясточылі не толькі іх канторы, але і рамонтныя майстэрні, зернетакі, склады, гаражы. У рэжыме аварыйнага стану засталіся толькі фермы. Зноў перад многімі вяскоўцамі паўсталі праблемы з атрыманнем зарплаты, а даўгі большасці гаспадарак працягваюць толькі ўзрастаць. Дарэчы, акрамя гаспадарак у раёне не хапіла заробленых сродкаў на выплату зарплаты на Варапаеўскім заводзе жалезабетонных вырабаў і на мясцовым ДАКу. Са скрыпам выплацілі людзям грошы за працу ў верасні на Пастаўскім льнозаводзе і ў аграбудаўнічым прадпрыемстве "Світанак Пастаўскі". Аднак, каторы месяц суб'екты гаспадарання рэгіёна калі з працаўнікамі неяк разлічваюцца, у тым ліку і з дапамогай натураплаты, то яны дрэнна выплочваюць асноўныя падаткі і плацяжы. У выніку цяпер на Пастаўшчыне запазычанасць толькі па падаходнаму падатку перавысіла 5,6 млрд. рублёў, а даўгі перад Фондам сацабароны насельніцтва выраслі да 5,8 млрд. Між тым, сітуацыя ў суседзяў пастаўчан яшчэ больш трывожная: па 11-12 мільярдаў рублёў не заплацілі Пенсійнаму фонду Браслаўскі, Шаркоўшчынскі, Глыбоцкі раёны, а ў Докшыцкім і Мёрскім проста катастрофа з даўгамі, 23-26 мільярдаў. З такімі даўгамі праца не залічваецца ў стаж для атрымання пенсіі.

## Полацкі раён

# “Добры кум” чакаюць змены

■ Чэслаў Якубовіч.

**Апошнім часам нават такое прадпрыемства, як Полацкі вінаробчы завод, стала чамусьці стратным, і яго дзейнасць зацікавіла кампетэнтныя органы.**

Па выніках праверкі фінансавай міліцыі Камітэта дзяржкантролю на ім сёлета былі праведзены больш 10 вобыскаў і распачата 12 крымінальных спраў па фактах карупцыі і нанясення матэрыяльнага ўрону вінзаводу ў суме 32 мільярды рублёў. Летам былі арыштаваны былы дырэктар завода і ягоны намеснік, накладзены арышт на камп'ютарную тэхніку, бухгалтарскія дакументы, іншыя носьбіты інфармацыі аб здзелках, на маёмасць і жыллё іншых удзельнікаў злачыннай групы, куды ўваходзілі пасрэднікі завода. Аднак, гэтаму прадпрыемству з гандлёвай маркай "Добры кум" трэба выходзіць з цяжкай сітуацыі, і гэта кіраўніцтва вобласці даручыла зрабіць новаму маладому дырэктару Дзянісу Шакалю. Дагэтуль тут ён працаваў галоўным тэхнолагам і добра ведае ўсе сакрэты дзейнасці галіны. Для выхаду на рэнтабельную дзейнасць спатрэбяцца непапулярныя меры і, найперш, аптымізацыя штату работнікаў. Новае кіраўніцтва завода плануе таксама іншыя меры па павелічэнню гандлёвай выручкі, змяншэнню затрат на выпуск прадукцыі, сярод якіх і нават зніжэнне мінімальных адпускных цэн на віно.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 05.11.15 | | | | Пятніца 06.11.15 | | | | Субота 07.11.15 | | | | Нядзеля 08.11.15 | | | | Пан. 09.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +8 | +4 | +8 | +3 | +6 | +2 | +7 | +2 | +5 | +2 | +6 | +3 | +8 | +5 | +8 | +5 | +8 | +4 | +9 |
| Ціск | 751 | 753 | 755 | 755 | 756 | 755 | 756 | 756 | 756 | 755 | 753 | 750 | 747 | 743 | 741 | 748 | 751 | 751 | 749 |
| Вецер м/сек | 2 | 3 | 3 | 2 | 3 | 2 | 2 | 3 | 3 | 4 | 5 | 6 | 3 | 3 | 6 | 5 | 4 | 4 | 2 |
| | С-З | С | С-В | В | Ю-В | Ю-В | Ю-В | Ю | Ю | Ю | Ю | Ю-З | Ю-З | Ю | С-В | С-З | С-З | С-З | Ю-З |
| Вільготнасць | 86 | 99 | 77 | 91 | 81 | 96 | 73 | 91 | 82 | 96 | 79 | 94 | 85 | 100 | 86 | 94 | 83 | 98 | 75 |

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСЫ ЯШЧЭ НЕ СТАМІЛІСЯ АД “ЭЛЕГАНТНЫХ ПЕРАМОГ”, АЛЕ КРАІНУ БЕЗ РЭФОРМ ЧАКАЕ ДАЛЕЙШАЯ ДЭГРАДАЦЫЯ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**З іншага боку, народ адчувальна збяднеў, замест абяцаных тысячы долараў зарплаты, яна знізілася да 400 USD на брата, што беларусы атрымоўвалі ў сярэднім яшчэ шэсць гадоў таму назад.**

Цяперашні час – вельмі хуткаплынны, і нядаўняя выбарчая кампанія ў Беларусі стала ўжо набыткам гісторыі. Вынік прайшоўшых прэзідэнцкіх выбараў быў прадказальным і нікога не здзівіў, нават на еўрапейскім кантыненце. Да іх, дарэчы, інтарэс у насельніцтва быў ужо невысокім, ва ўсялякім разе не было чутна размоў на гэту тэму сярод людзей, а раней бурна абмяркоўвалі кандыдатаў, іх праграмы і заявы, спрачаліся. Запомніліся з нагоды тых падзей на выбарчых участках хіба што твары многіх беларусаў: нейкія былі яны засмучаныя, невясёлыя, бо жыццёвых цяжкасцяў сёлета ў многіх прыбавілася.

У будучых падручніках гісторыі, магчыма, знойдзе месца і той факт, што перад выбарамі не праводзіўся, як заўсёды, V Усебеларускі народны сход. Замест гэтага мерапрыемства ў беларускай сталіцы арганізавалі акцыю, пампезную "Малітву за Беларусь", куды для большай масавасці арганізавалі наплыў па загаду студэнтаў і школьнікаў, шэраг з якіх да веры адносіцца абыякава. Аднак, ад ідэі параіцца быццам з народам у Мінску ў форме ранейшых камуністычных з'ездаў не адмовіліся. Адразу пасля выбараў вядомыя прадстаўнікі правячай "вертыкалі" паведамілі, што такі форум рыхтуецца, бо, сапраўды, многіх з нас цяпер хвалюе, як будзем жыць далей і выбірацца з крызісу?

Дарэчы, крытычная ацэнка прайшоўшых выбараў з боку заходніх назіральнікаў не закрыла перад кіраўніцтвам Беларусі перспектыў супрацоўніцтва з Еўрасаюзам і ЗША. Нязменны глава дзяржавы працягвае сцвярджаць, што ў нас ёсць усё, каб жыць нармальна, пра што ён заявіў на выбарчым участку 11 кастрычніка. Вось тут можна з ім паспрачацца, паколькі сёлета летам каля 180 тысяч беларусаў на заводах і фабрыках вымушаны былі працаваць у рэжыме няпоўнай занятасці, па некалькі дзён на тыдзень. З пачатку года ў 2 разы зменшылася колькасць свабодных вакансій, а беспрацоўе пачало расці, як і даўгі па зарплаце (іх пагасілі толькі перад самымі выбарамі). Нават у сталіцы звярнуліся за дапамогай знайсці працу больш 23 тысяч мінчан.

Яшчэ да абвяшчэння вынікаў выбараў А. Лукашэнка заявіў, што ён " готов на любые мероприятия и любые реформы … но выдержите ли вы это. Но надо ли вам это?" З іншага боку, народ адчувальна збяднеў, замест абяцаных тысячы долараў зарплаты, яна знізілася да 400 USD на брата, што беларусы атрымоўвалі ў сярэднім яшчэ шэсць гадоў таму назад. Яшчэ ў мінулай пяцігодцы, у далёкім 2007 годзе, насельніцтву зрэзалі многія сацыяльныя ільготы. Колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у краіне пры пастаянным росце цэн практычна падвоілася, але як такім людзям выжываць пры смехатворных памерах дапамог у суме 180 тысяч рублёў на месяц ( атрымоўваецца, па паўбуханкі хлеба на дзень).

Дагэтуль наша краіна дэманстравала хоць сціплы, але хоць нейкі эканамічны рост (нават 1,6% летась). У гэтым годзе проста бяда, бо айчынны ВУП знізіўся на 3,5%. У бягучай пяцігодцы Беларусі практычна нічога не ўдалося выканаць з намечаных грандыёзных планаў. Асноўным партнёрам беларусаў і донарам айчыннай эканомікі доўгі час заставалася Расія. На жаль, у суседкі выраслі геапалітычныя амбіцыі, яна пераацаніла свае сілы і пасля агрэсіўных праектаў "Крым наш" і "Наваросіі ва Украіне" атрымала заходнія санкцыі, звалілася ў эканамічную яму і Беларусь туды ж уцягнула.

Для простых беларусаў цяпер застаецца толькі гадаць, ці пачнуць у нас неўзабаве непапулярныя рэформы і ў якой ступені? Нездарма ж беларускі лідар на саммітах у Казахстане заявіў, што надышла пара абмеркаваць сур'ёзныя праблемы на постсавецкай прасторы. Яшчэ адно актуальнае пытанне размяшчэння на беларускай зямлі трэцяй па ліку расійскай ваеннай авіябазы не абмяркоўвалася на казахскім курорце Буранай. Па гэтаму і іншых важных пытаннях узаемнага супрацоўніцтва Пуцін з Лукашэнкам дамовіліся правесці новую сустрэчу на вышэйшым узроўні.

Самі ж прэзідэнцкія выбары ў нас прайшлі, а існуючыя праблемы нікуды не дзеліся. Яшчэ не была вызначана дата новай інаўгурацыі кіраўніка Беларусі, а прыйшло паведамленне, што сёлета рэальныя даходы беларусаў зменшыліся ўжо на 5,3%, у параўнанні з аднаведным перыядам мінулага года. Даўгі ж айчынных прадпрыемстваў працягвалі расці і дасягнулі астранамічнай сумы амаль 343 трлн. рублёў, хоць перад выбарамі да вырашэння гэтай праблемы падключаліся не толькі сілавыя ведамствы, але і сам глава дзяржавы. Да гэтага часу хранічнымі балячкамі ў нас "хварэлі" большасць калгасаў, а цяпер, падобна на тое, што імкліва пагаршаецца здароўе многіх не толькі гігантаў прамысловасці, але і будаўнічых арганізацый, транспартнікаў і іншых галін эканомікі. І калі нічога не рабіць, стане яшчэ горш, аднак і рэформы будуць балючымі, вось у якой сітуацыі ўсе мы цяпер апынуліся.

## Дзень за днём

**Хоць і пасля выбараў, але адбудзецца V Усебеларускі народны сход. З-за праблем у эканоміцы ўрад на 500 млрд. рублёў скараціў расходы на дапамогу сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, і на 96,8 млрд. – на медыцыну. ЕС на 4 месяцы прыпыніў санкцыі супраць службовых асоб і кампаній Беларусі. Эксперты МВФ спрагназавалі, што ажыўленне беларускай эканомікі пачнецца толькі праз 5 гадоў. Закрыццё авіязносін паміж Украінай і Расіяй дабавіць Беларусі да 8% пасажыраў. Праз пункты спрошчанага кантролю забаранілі ўвозіць у багажы алкаголь.**

# Важнейшыя навіны свету

**Турцыя.** Урад краіны дамовіўся з ЕС, як сумесна спыніць паток нелегальных мігрантаў, туркам выдзеляць сродкі для лагераў уцекачоў, аблегчаць для іх візавы рэжым.

**Кітай.** Запавольванне росту эканомікі ў краіне, нізкія цэны на сыравіну, як заявіла група аналітыкаў Goldman Sachs, выклікалі 3-ю хвалю сусветнага фінансавага крызісу.

**Ізраіль.** Падчас росту насілля ў краіне палесцінскія радыкалы напалі і падпалілі мясцовую святыню – грабніцу Іосіфа, пачасціліся іх нападзенні і на мірных грамадзян.

**Галандыя.** Міжнароднае расследванне выявіла, што самалёт "Боінг" збілі над Данецкам ракетай "Бук", а не ракетай "паветра-паветра", як спрабуе даказаць віноўніца Расія.

**Бельгія.** Прадстаўнік ЕС па замежных справах Ф. Магерыні паведаміла, што аб'яднаная следчая група будзе праследваць вінаватых у праднамераным збіцці "Боінга" ва Украіне.

**ЗША.** Экс-дзяржсакратар Х. Клінтан заявіла на тэледэбатах, што ЗША павінны больш ясна і цвёрда даць зразумець Пуціну, што Расія не павінна ствараць хаос у Сірыі.

**Сірыя.** Тэрарыстычная групоўка "Ісламская дзяржава" адначасова абвясціла свяшчэнную вайну джыхад з "памагатымі д'ябла" - Расіяй з Іранам і Амерыцы з яе кааліцыяй.

**ЗША.** У Вашынгтоне адмовіліся прыняць расійскую дэлегацыю на чале з прэм'ерам Д. Мядзведзевым для абмеркавання вайны ў Сірыі, бо пазіцыі бакоў моцна разыходзяцца.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка пацвердзіў, што краіна пачала нарэшце атрымоўваць з-за граніцы патрэбную сучасную зброю для абароны сваёй зямлі ад акупантаў.

**Літва.** Гістарычнай падзеяй для ЕС стала пагадненне аб будаўніцтве газаправода з Літвы ў Польшчу, гэта вырашыць праблему залежнасці краін Балтыкі ад расійскага газу.

**Польшча.** Расійскія СМІ паведамілі, што галоўнай мэтай авіябазы РФ у Беларусі стане барацьба з польскімі ВПС, яе арміяй і нанясенне ўдару па польскай тэрыторыі.

**Германія.** Аўтаканцэрн Volkswagen аб'явіў аб пераходзе на новыя тэхналогіі з мэтай скарачэння шкодных выкідаў у атмасферу з дызельных аўто, яго глава пакінуў пасаду.

**Ізраіль.** Прэзідэнт універсітэта Іерусаліма А. Шмулевіч заявіў, што Пуцін не разумее, да якой катастрофы прывядзе ўдзел рускіх у ваенным канфлікце шытаў і суннітаў у Сірыі.

**Расія.** З 16,5 мільёна мусульман, грамадзян РФ – большасць сунніты, паступова расце іх незадаванненне, чаму Пуцін падтрымлівае Асада, забойцу 250 тысяч іх аднаверцаў.

**Швейцарыя.** Буйнейшая ў свеце кампанія Swatch Group распрацавала новыя электронныя гадзіннікі з мікрачыпамі, з імі можна аплочваць розныя пакупкі ў магазінах.

# Уводзіцца ўтылізацыйны збор на транспартныя сродкі, дабудаваныя на тэрыторыі Беларусі



■ TUT.BY

**Аляксандр Лукашэнка 30 кастрычніка падпісаў указ №445, якім унесены змены і дапаўненні ва ўказ ад 4 лютага 2014 №64 «Аб утылізацыйным зборы ў дачыненні да транспартных сродкаў». Пра гэта паведамляе прэс-служба Прэзідэнта Беларусі.**

Ва ўказе, у прыватнасці, прадугледжваецца норма, у адпаведнасці з якой уводзіцца ўтылізацыйны збор на транспартныя сродкі, дабудаваныя на тэрыторыі краіны, на базе шасі, прадастаўленых заказчыкам.

На практыцы нярэдка бываюць сітуацыі, калі выплата збору не адбываецца. Тыповы прыклад - выраб транспартнага сродку па давальніцкай схеме па дамове падраду на базе шасі імпартнай або беларускай вытворчасці (калі вытворца атрымлівае шасі для дапрацоўкі). Затым гатовы транспартны сродак перадаецца ад вытворцы да ўласніка. Паколькі ў дадзеным выпадку адчужэння не адбываецца, то абавязацельства па выплаце ўтылізацыйнага збору ў адпаведнасці з указам №64 не ўзнікае.

Ад ўтылізацыйнага збору вызваляюцца транспартныя сродкі, якія ўвозяцца ў Беларусь і вернутыя ва ўласнасць дзяржавы ў адпаведнасці з заканадаўствам, а таксама пастаўляюцца ў якасці замежнай бязвыплатнай або міжнароднай тэхнічнай дапамогі.

«Дакумент удакладняе заканадаўства, звязанае з выплатай утылізацыйнага збору, і дазволіць палепшыць сістэму адміністравання такога збору ў Беларусі», - лічаць у прэс-службе.

Нагадаем, указ аб увядзенні на тэрыторыі Беларусі ўтылізацыйнага збору быў падпісаны ў лютым мінулага года. Аўтамабілі, якія збіраюцца на тэрыторыі Беларусі - Geely, МАЗ, БелАЗ, «Амкадор», МЗКЦ абкладаюцца ўтылізацыйным зборам. Пра якія менавіта транспартныя сродкі ідзе гаворка ва ўказе ад 30 кастрычніка, не паведамляецца. Магчыма, ён тычыцца спецыяльнай тэхнікі на базе ГАЗ, Mercedes і гэтак далей.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Намеснік міністра эканомікі Д. Круты паведаміў, што ў Беларусі неўзабаве большасць рэгуліруемых цэн на сацыяльна значныя тавары і паслугі стануць свабоднымі.

**Астравец.** Расійскі завод "Атаммаш" адгрузіў на Беларускую АЭС корпус ядзернага рэактара для 1-га энергаблока вагой 330 тон, яго транспарціроўка зойме 70 дзён.

**Мінск.** Толькі за 2 апошнія гады, як заявіў вядомы прафсаюзны лідар А. Бухвостаў, з машынабудаўнічых заводаў краіны звольнілі больш 30 тысяч чалавек, гэты працэс ідзе.

**Бабруйск.** Вядомы ваенны эксперт А. Алесін папярэдзіў, што расійская авіябаза самалётаў-знішчальнікаў Су-27 у Беларусі можа выкарыстоўвацца не толькі для абароны.

**Мінск.** Намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны В. Кавалькоў пацвердзіў, што ў бюджэце Пенсійнага фонда няма сродкаў, каб адчувальна павысіць памеры працоўных пенсій.

**Маладзечна.** Мясцовы завод металаканструкцый, дзе летам былі забастоўкі рабочых з-за затрымак заробкаў, пачаў пазбаўляцца ад сваіх непрофільных актываў.

**Мінск.** Беларусі патрэбны рэформы і мінімум 25 гадоў росту, як заявіў эканаміст Яраслаў Раманчук, каб дасягнуць ўзроўню развіцця дзяржаў свету з сярэднімі даходамі грамадзян.

**Брэст.** Беларуская чыгунка дамовілася з калегамі з Польшчы запусціць новы кантэйнерны грузавы поезд "Волат" па маршруту порт Гданьск-Брузгі-краіны Садружнасці незалежных дзяржаў.

**Дзяржынск.** Двое хлопцаў прыбылі на ваенныя зборы ў майках з надпісамі "Не – расійскай ваеннай базе!", ім у часці адразу аддалі ваенныя білеты і адпусцілі дамоў.

**Гомель.** Пасля цырымоніі ўрачыстага адкрыцця больш месяца не адкрываўся новы дзіцячы сад №91, бо не ўсе службы падпісалі неабходны дазвол на яго эксплуатацыю.

**Мінск.** Буйнейшы сталічны кабельны аператар МТІС пасля мадэрнізацыі сваіх сетак і пераходу на лічбавае ТБ рэзка, у 6 разоў павысіў кошт пакета з 55 тэлепраграм.

**Плешчаніцы.** З прыкметамі вострага кішэчнага атручвання шпіталізавалі 20 навучэнцаў абласнога вучылішча алімпійскага рэзерву, па факту пачалася следчая праверка.

**Столін.** У суд раёна пракуратура Брэсцкай вобласці накіравала крымінальную справу 60-гадовай бабулі за ненаўмыснае забойства на падпітку яе 6-гадовага ўнука-інваліда.

**Лагойск.** У лесе за вёскай Вялікія Бесяды знайшлі 9 незаконна спілаваных дубоў-старажылаў, без дазволу іх зрэзаў гаспадар піларамы, яго чакае буйны штраф.

**Мінск.** Хакеісты мінскага "Дынама" напісалі пісьмо А. Лукашэнку ў абарону лепшага арыштаванага генеральнага менеджара клуба У. Беражкова, але яму прадоўжылі арышт на 2 месяцы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Услед за трыкатажнай фабрыкай "КІМ" на мяжы банкрутства апынуўся і мясцовы камбінат шаўковых тканін, няпростая сітуацыя на тэлезаводзе "Віцязь".

**Шуміліна.** На керамічным заводзе ў Обалі завяршаецца рэканструкцыя цэха № 2, дзе пачнуць выпуск інавацыйнай прадукцыі – цэглы пластычнага фармавання.

**Полацк.** У Маскве аператыўнікі МУС Беларусі разам з расійскімі калегамі затрымалі 24-гадовага палачаніна, які на радзіме забіў знаёмую жанчыну і абрабаваў яе кватэру.

**Віцебск.** Па заказу ААТ "Беларуськалій" спецыялісты фірмы "Натрыкс" распрацавалі ўнікальны комплекс вагой 7 тон з трымя модулямі для бурэння ў любым накірунку.

**Пастаў.** ААТ "Паставымэбля" адкрыў яшчэ 3 новыя фірменныя магазіны ў Мінску, Віцебску і Астраўцы, пашырыў вытворчасць камплектаў сучаснай школьнай мэблі.

**Глыбокае.** Адным з буйнейшых у Беларусі стане хутка турысцка-аздараўленчы комплекс "Пліса" коштам 20 мільёнаў доляраў, яго ўзвядзенне завяршае сталічны трэст "Прамбуд".

**Орша.** Расійскія ветэрынары па Смаленскай і Брянскай абласцях не пусцілі на расійскі рынак 300 тысяч курыных яек мясцовай птушкафабрыкі з-за нібыта хібаў у маркіроўцы.

**Гарадок.** У раённым цэнтры пабудавалі чарговы дзіцячы дом сямейнага тыпу плошчай 120 квадратных метраў з мансардай і гаражом коштам 2,5 мільярда рублёў для сям'і, якая выхоўвае 5 дзяцей.

**Наваполацк.** Мясцовы Дом гандлю прызналі лепшым на Міжнароднай аптовай выставе-ярмарцы "Белтэкслегпрам. Восень-2015" у намінацыі "За развіццё бізнас-партнёрства".

**Віцебск.** На выездзе з абласнога цэнтра перасоўны радар ДАІ за двое сутак зафіксаваў 559 перавышэнняў хуткасці руху, асобныя ліхачы разганяліся да 120-150 км у гадзіну.

**Докшыцы.** Дырэктар Тумілавіцкай СШ-дзіцячы сад Вольга Ковель атрымала штогадовую абласную прэмію імя З. Тусналобавай-Марчанка за ўклад у справу выхавання дзяцей.

**Ушачы.** Міліцыя аператыўна выявіла і затрымала 39-гадовага злодзея, які ноччу залез па вадасточнай трубе на балкон кватэры на 2-м паверсе і выкраў там 5,7 мільёна рублёў.

**Браслаў.** Вечарам з-за кароткага замыкання электраправодкі загарэўся легкавы аўтамабіль VW-Гольф, пажар патушылі хутка, але агонь пашкодзіў панэль прыбораў і салон аўто.

**Верхнядзвінск.** З удзелам біскупа Віцебскага А. Буткевіча ў касцёле вёскі Росіца ўпершыню прайшло свята кветак і ўраджаю, тут штогод іх садзяць больш 1500 штук.

**Лёзна.** Прышкольны ўчастак Дабрамысленскай СШ парадаваў добрым ураджаем, сабралі 2 тоны бульбы, 1,5 т – цыбулі, шмат капусты, хопіць на год для сталовай морквы, буракоў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*



Падрых - таваў **Кліменцій Кожан**, *краязнаўца, м. Германавічы.*

# Люцыян Жалігоўскі – апошні сапраўдны літвінскі герой

## Да 150-годдзя з дня нараджэння генерала Люцыяна Жалігоўскага.

**Усвядомасці пераважнай большасці беларусаў укараніўся міф, навязаны ім расейскай прапагандай і гістарыяграфіяй, што "вялікі рускі народ" заўсёды прыходзіў на дапамогу сваім "малодшым братам беларусам" – вызваляў іх ад прыгнёту літоўскіх феадалаў і польскіх паноў. Гэта значыць – вызвалялі Беларусь ад саміх беларусаў!**

**Мала хто ведае, што назоў Літва, здаўна, адносіўся менавіта да тэрыторыі сённяшняй Рэспублікі Беларусь, і цяперашнія беларусы да сярэдзіны XIX ст. адносілі сябе да літвінаў (літоўцаў), а шляхта, якая захоўвала даўнія традыцыі, – аж да 1920-х гг.**

**Сярод іх – Люцыян Жалігоўскі. Каб не паход генерала Жалігоўскага ў кастрычніку 1920 года на Вільню, то сёння ў Гродна, Ліду, Ашмяны, Маладзечна, Паставы і Браслаў мы ездзілі б па візе.**

**Ураджэнец Ашмянаў – Люцыян Жалігоўскі – не змог змірыцца з нахабнай бальшавіцкай перадачай беларускіх земляў разам з яе сталіцай Вільняй – Жамойці. Жамойты (па-польску – жмудзіны) на гэты час, дзякуючы "старэйшым братам", ужо перапісалі беларускую гісторыю пад сябе – прысабечылі чужы ім назоў Літва, герб Пагоню і сталі патрабаваць перадачы ёй "літоўскіх" зямель, г.зн. беларускіх, уключна з Брэстам (Брэст-Літоўскам).**

**Дзякуючы генералу Жалігоўскаму – апошняму з літвінаў – гэты план не здзейсніўся цалкам, хоць у 1939 годзе бальшавікі зноў жа, канчаткова, перадалі Вільню жамойтам.**

*Уладзімір Скрабатун.*



**Люцыян Жалігоўскі.**

Споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння вайсковага і палітычнага дзеяча, генерала Люцыяна Жалігоўскага. Ён нарадзіўся 17 кастрычніка 1865 года ў г. Ашмяны Віленскай губерні ў сям'і Густава Жалігоўскага і Уладзіславы з Трачэўскіх. Хрышчаны ў Касцёле Маці Божай Ружанцовай у вёсцы Солы (цяпер Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці) пад імем Люцыян Мечыслаў Рафал.

Бацька Люцыяна Жалігоўскага разам з жонкай і двума братамі быў высланы ў Сібір за ўдзел у паўстанні супраць рускага царызму, адкуль яны не вярнуліся. Люцыян быў выхаваны цёткай Кацярынай, якая жыла ў Жупранах. Наведваў мясцовую школу, з якой перайшоў у класічную гімназію ў Вільні. Тут скончыў 7 класаў. Па атрыманні атэстата сталасці 30 сакавіка 1885 года паступіў у школу юнкераў I ступені ў Рызе, дзе рыхтаваліся афіцэры пяхоты Расійскага войска. Скончыў яе ў 1888 годзе, атрымаў першае афіцэрскае званне. Удзельнічаў у руска-японскай вайне 1904-1905 гг у званні капітана. Далей служыў у Растове-на-Доне.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, быў камандзірам батальёна ў званні падпалкоўніка. 6 мая 1915 года быў падвышаны да звання палкоўніка і прызначаны камандзірам 261 палка пяхоты.

9 верасня 1915 года пачалося фармаванне пры расійскім войску Польскай брыгады стральцоў. Люцыян Жалігоўскі стаў камандзірам батальёна. У чэрвені 1916 года Польская брыгада стральцоў дасягнула баявой гатоўнасці і 27 ліпеня 1916 года фарсіравала раку Шчару. У студзені 1917 года на базе Польскай брыгады стральцоў распачалася арганізацыя Дывізіі польскіх стральцоў. Люцыян Жалігоўскі стаў камандзірам 1-га палка гэтай дывізіі.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года ў сувязі з ростам рэвалюцыйных настрояў у расійскім войску, наступіла рэарганізацыя Дывізіі польскіх стральцоў у 1-ы Польскі корпус, а палкоўнік Л. Жалігоўскі быў накіраваны зноў у расійскае войска. Аднак, хутка вярнуўся і стаў камандзірам 1-й дывізіі пяхоты. Калі пачалася Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 года, узнік канфлікт паміж Люцыянам і камандзірам 1-га Польскага корпуса ў Расіі генералам Юзафам Доўбар-Мусніцкім. Вясной 1918 года генерал Ю. Доўбар-Мусніцкі звольніў Люцыяна Жалігоўскага з усіх пасадаў. Ён выехаў у Кіеў, дзе ўвайшоў у склад Найвышэйшага польскага вайсковага камітэта, які праводзіў перамовы з французскай вайсковай місіяй наконт стварэння польскіх частак у Францыі і Расіі. Пасля атрымання дапамогі з боку Францыі, распачалося фармаванне Блакітнай арміі генерала Юзафа Галера. Люцыян Жалігоўскі 3 ліпеня 1918 года быў прызначаны генералам Галерам камандзірам Польскага Войска на Усходзе і атрымаў званне генерала-падпаручніка.

Сярод створаных тады ў Расіі частак паўстала ў 1918 годзе на Кубані 4-я Дывізія польскіх стральцоў, якую ўзначаліў Люцыян.

У красавіку і маі 1919 года яна праводзіла баі з часткамі Чырвонай Арміі і разам з французскім інтэрвенцыйным корпусам сышла ў Адэсу, адкуль перайшла ў Бесарабію. 23 мая 1919 года дывізія была знятая з лініі фронту, а потым накіравана ў Польшчу, куды прыбыла ў чэрвені 1919 года.

У Войску Польскім Люцыян Жалігоўскі быў спачатку камандзірам Літоўска-Беларускага Фронту, потым аперацыйнай групы ў раёне Мінска, а таксама камандзірам 10-й Дывізіі пяхоты ў Польска-Савецкай вайне.

Падтрыманы сяброўствам і даверам Юзафа Пілсудскага, ад кастрычніка 1920 года Л. Жалігоўскі камандаваў 1-й Беларуска-Літоўскай дывізіяй, якую падняў на вядомы "бунт" супраць перадачы Вільні і Віленскага краю Літве і 9 кастрычніка 1920 года заняў Вільню, сфармаваў Часовую кіраўнічую камісію Сярэдняй Літвы, якая была абвешчана самастойнай і незалежнай ад Польшчы дзяржавай. Жалігоўскі пісаў у сваіх успамінах: *"9 кастрычніка 1920 года … заняў Вільню не польскі генерал Жалігоўскі, а ліцвін Жалігоўскі. Мараю гэтага апошняга было жыць сярод суайчыннікаў на літоўскай зямлі. Я не вылучаў сярод іх ні палякаў, ні русінаў, ні жмудзінаў. Будучы ліцвінам, я ніколі не пераставаў быць палякам. Два гэтыя паняцці звязаныя між сабою. Яны ўзаемна дапаўняюць адно другое".*

*"Мы ўсе апелявалі даўнімі катэгорыямі. Пад словам "ліцвін" мы разумелі паняцце Літвы гістарычнай, Літвы вялікіх мэтаў, вялікіх людзей, вялікай ідэі. Мы шанавалі нашыя традыцыі… Нічога з мінуўшчыны не пакінула следу, новаяўлены "ліцвін" аказаўся ворагам… і чакаў прыезду на трон літоўскі – Гагенцолерна, пад імем – о, іронія, – Міндоўга II. Найбольш перажываў за гэта Маршалак. Чакаў, верыў у людское разуменне і розум. І люднасць мясцовая адкідала ўсё, што звалася літоўскім. Ніхто не хацеў чуць пра навуку жмудскай мовы, ніхто не прызнаваў "літоўскага" чыноўніка, і любая кабета не хацела ісці ў касцёл, дзе служыў "літоўскі" ксёндз. Чаму мы, адвечныя насельнікі Літвы, мусілі ўнікаць той дарагой для нас назвы, а іншыя людзі, што не маюць з Літвой нічога супольнага, называюць сябе ліцвінамі?"*

У першы перыяд існавання Сярэдняй Літвы Часовая кіраўнічая камісія праводзіла ў адносінах да беларускага насельніцтва ліберальную нацыянальную палітыку. 9 кастрычніка 1920 года ў Вільні на нарадзе беларускіх дзеячаў, у якой прынялі ўдзел Браніслаў Тарашкевіч, Вацлаў Іваноўскі, Антон Луцкевіч і іншыя, было вырашана выкарыстаць спрыяльныя палітычныя абставіны для развіцця беларускай адукацыі і асветы. У 1921 годзе Антон Луцкевіч стварыў Беларускі музей імя Івана Луцкевіча. Па прапанове ўраду Браніслаў Тарашкевіч заняў пасаду старшага рэферэнта ў Дэпартаменце асветы. Вясной 1921 года ў краі дзейнічала 186 беларускіх школ. У канцы 1920 года была заснавана Барунская настаўніцкая семінарыя. У 1921 годзе па ініцыятыве Браніслава Тарашкевіча створана Таварыства беларускай школы. Аднак, беларускае школьніцтва на Віленшчыне існавала да таго часу, пакуль у складзе Часовай кіраўнічай камісіі заставаліся Вацлаў Іваноўскі і Браніслаў Тарашкевіч, які ў кастрычніку 1921 года адмовіўся ад працы ў Дэпартаменце асветы. У гэты час Люцыяна Жалігоўскага адклікалі ў Польшчу. З 20 лістапада 1921 года да 27 лістапада 1925 года ён быў інспектарам арміі ў Варшаве, кіраваў працай Інспектарату 2-й арміі. 1 снежня 1921 года быў падвышаны да звання генерал-паручніка.

Новы ўрад Сярэдняй Літвы прыступіў да ліквідацыі беларускай асветы. У 1922 годзе колькасць беларускіх школ скарацілася да 29.

27 лістапада 1925 года Люцыян Жалігоўскі атрымаў пасаду міністра вайсковых спраў у кабінеце Аляксандра Скрынскага. На гэтай пасадзе дапамог Юзафу Пілсудскаму ў падрыхтоўцы і правядзенні майскага перавароту 1926 года, які прывёў да ўлады Ю.Пілсудскага. Абавязкі міністра Л.Жалігоўскі выконваў да 10 мая 1926 года. У жніўні 1926 года па ўтварэнні Генеральнага Інспектарату Узброеных Сіл стаў інспектарам арміі. 31 жніўня 1927 года па ўласнай просьбе Люцыян Жалігоўскі сышоў на адпачынак.

У 1927-1939 гг Люцыян Жалігоўскі быў дэпутатам польскага сейма. У 1939 годзе эміграваў у Англію. У 1942-1944гг член Нацыянальнай рады пры эміграцкім польскім урадзе. Выступаў за супрацоўніцтва з СССР у барацьбе супраць гітлераўцаў.

Люцыян Жалігоўскі – ганаровы грамадзянін Варшавы з 1920 года. Напісаў кнігу "Wojna w roku 1920: Wspomnienia I rozwazania", 2 wydanie, Warszawa, 1990.

Памёр Люцыян Жалігоўскі 9 ліпеня 1947 года ў Лондане.

■ **Т.А.Кадушкевіч,** *заг. лабараторным аддзелам*

Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі папярэджвае

# Што забівае алкаголь

Ад алкаголю пакутуюць усе сістэмы, органы і тканкі арганізма. Алкаголь – гэта своеасаблівы наркотык, і яго ўжыванне паралізуе функцыі чалавечага мозгу, першым чынам функцыю тармажэння, рэгуляцыі ўчынкаў людзей. У стане ап'янення чалавек у значнай меры губляе здольнасць да самакантролю, самавалодання. Алкаголь расхіствае нервовую сістэму, саслабляе сілу волі, робіць чалавека грубым, раздражняльным, агрэсіўным. Цяга да спіртнога, якая перарастае ў хваробу, замінае чалавеку жыць і працаваць нармальна, так, як дазвалялі б яму здольнасці, таленты. Алкагалізм – гэта захворванне, якое характарызуецца псіхафізічнай залежнасцю ад алкаголю, у аснове якой ляжыць уключэнне алкаголю ў абменныя працэсы арганізма. Гэта добраахвотна набытая хвароба займае па ліку ахвяр у свеце трэцяе месца пасля сардэчнасасудзістых і ракавых захворванняў.



Дзякуючы ўзмоцненай канцэнтрацыі алкаголю ў кары галаўнога мозгу адбываецца склейванне чырвоных крывяных цельцаў, і ствараюцца ўмовы, пры якіх нейроны гінуць у вялікіх колькасцях.

Трапляючы ў кроў алкаголь знаходзіцца ў ёй на працягу 5-7 гадзін, увесь гэты час сэрцу даводзіцца працаваць у неспрыяльных умовах. Пульс пачашчаецца, у арганізме парушаецца абмен рэчываў і сілкаванне сардэчнай мышцы. Пры рэгулярным ужыванні алкаголь руйнуе сардэчную мышцу, яна губляе эластычнасць, і ў ёй назапашваецца залішняя колькасць тлушчу. У алкаголікаў у 3 разы часцей сустракаецца гіпертанічная хвароба, якая прыводзіць да інсульту.

У пітушчых людзей часцяя скаргі на дрэннае страваванне, на рэзкія болі ў жываце. Пры прыёме алкаголю ўнутр пакутуе страўнік. Узнікае гастрыт, язвавая хвароба страўніка. Таксама ўзнікаюць склератычныя змены ў падстраўнікавай залозе. Этылавы спірт адмоўна ўплывае на пячоначныя клеткі, якія гінуць, а на іх месцы ўтворыцца злучальная тканіна.

Спіртныя напоі саслабляюць і разладжваюць звычку да працы, парушаецца звычайнае запатрабаванне чалавека працаваць. У часта пітушчых людзей сон не аднаўляе звычайнай бадзёрасці і не дае адчування адпачынку.

Бясшкоднай дозы піва, віна ці гарэлкі навука ўказаць не ў стане. Толькі поўнае ўстрыманне ад спіртных напояў – надзейная абарона ад магчымага алкагалізму і ўсіх яго наступстваў.

# Раіса Канстанцінаўна стрымала слова!

■ Уладзімір Скрабатун

**Два гады таму Раіса Канстанцінаўна Рубашка, настаўніца пачатковых класаў Глыбоцкай СШ№3, адправіла свой 4-А клас у далейшы шлях па краіне ведаў, г.зн – у сярэднюю школу. Сама ж прыняла новы клас малятаў.**

Між тым, за чатыры гады вучобы, яе вучні атрымалі не толькі трывалыя веды, але разам з гэтым аб'ездзілі паўкраіны – мінскі цырк, тэатры, аквапарк у Маладзечне, а таксама – і родную Глыбоччыну: Залессе і Мосар.

Здавалася б, на гэтым мусіла б усё заканамерна і скончыцца. Раіса Канстанцінаўна атрымала новых першакласнікаў, а яе былыя выпускнікі, 4-класнікі, пайшлі далей сваёй дарогай з багажом светлых успамінаў аб першай настаўніцы.

Фенаменальна! Вы не паверыце! Раіса Канстанцінаўна ізноў сабрала сваіх выпускнікоў, а цяпер ужо вучняў 6-А класа, у чарговую вандроўку. Абяцала ж некалі, на развітанне са сваімі тады 4-класнікамі звазіць яшчэ ў Мір і Нясвіж!

І абяцанне сваё стрымала! У вандроўку, якая адбылася 26 кастрычніка, адправіліся і былыя аднакласнікі, што цяпер навучаюцца ў гімназіі. У гэта падарожжа разам з унучкай – па даросламу тарыфу – адправіўся і аўтар гэтых радкоў, засталося вольнае месца, а ў Нясвіжы пабываць нияк яшчэ ніколі не выпадала.

Усю дарогу вучнямі апекавалася глыбоцкі экскурсавод Эма Яўстаф'еўна Ягнёнкава. Яна звяртала ўвагу вандроўнікаў не толькі на аб'екты, якія мільгаюць за акном аўтобуса, але вучні цягам падарожжа да Нясвіжа, які быў першай мэтай наведвання, вывучылі ўвесь радавод Радзівілаў.

Напэўна, сапраўды, ехаць у такую вандроўку да славутых беларускіх замкаў, варта не ў пачатковых класах, а тады, калі вучні становяцца сталейшымі – пачалі вывучаць у школе гісторыю і геаграфію Беларусі.

Нясвіжскі замак, які цягам стагоддзяў неаднаразова перабудоўваўся, цяпер нагадвае больш прадстаўнічы палац. Гэта і ёсць галоўная рэзідэнцыя магнацкага роду Радзівілаў. Радзівілы валодалі і Глыбокім. Апошні з іх – Дамінік Радзівіл – вялікі прыхільнік Напалеона, уступіў у яго Вялікую Армію, быў ад'ютантам французскага імператара, загінуў ад ран у "Бітве народаў" пад Ханаў (Германія). На ім і скончыўся радавод нясвіжскіх Радзівілаў па мужчынскай лініі. І дзе знаходзяцца тыя незлічоныя скарбы Радзівілаў, якія Дамінік загадаў схаваць, пакідаючы назаўсёды Нясвіж? Скарбашукальнікі два стагоддзі заклапочаныя гэтай таямніцай! 60 пудоў скарбаў!

*– Караль Станіслаў Радзівіл меў мянушку – Пане Каханку. – У Міхаіла Казіміра Радзівіла мянушка – Рыбанька. Бо вельмі любіў жанчын і звяртаўся да іх: "Мая ты, рыбанька!" Мікалай Хрыстафор Радзівіл – Мікалай Чорны, іншы Мікалай Хрыстафор Радзівіл – Сіротка,* – тлумачыла дарогай Эма Яўстаф'еўна. Ну, паспрабуй, запомні!

Дзеці запомнілі! Хто б мог падумаць! Запомнілі! Асабліва гэта выявілася ў Мірскім замку, дзе экскурсію праводзіла мясцовы экскурсавод. Варта было экскурсаводу спыніцца ля пэўнага радзівілаўскага партрэта, ды пачаць апавядаць: *"Караль Станіслаў Радзівіл..."*. Глыбоцкія школьнікі ледзьве не хорам: "Дык гэта ж – Пане Каханку!" Далей экскурсавод спыняецца ля іншага партрэта: *"Міхаіл Казімір Радзівіл..."*. – Гэта – Рыбанька!– зноў паказваюць сваю дасведчанасць вучні 6-А.

Гэта ўразіла не толькі аўтара гэтых радкоў, Раісу Канстанцінаўну, ды Эму Яўстаф'еўну, але і экскурсавода Мірскага замка: "Ой, якія вы – малайцы! Усё і без мяне ведаеце аб Радзівілах!"

Кастрычніцкі дзень – кароткі! Сонца – на небасхіле. Едзем дадому, дарога зойме пад 4,5 гадзіны...

*– Які замак больш спадабаўся?*– пытае Эма Яўстаф'еўна.

– Мірскі!– перакрычалі галасы прыхільнікаў мірскага замка над нясвіжскім.

Тут, зразумела, пытанне густу! Нясвіжскі замак увесь патанае ў раскошы, вочы разбягаюцца, цяжка на чымсьці засяродзіцца. Усяго цікавага безліч! Варта тут пабываць не адзін раз, каб ацаніць усю паўнату яго велічы. Мірскі замак – гэта замак, фактычна, крэпасць. Строгая гатычная архітэктура, няма той палацавай пышнасці. Усё – проста і запамінальна.

– Дзякуй, Раіса Канстанцінаўна, за цудоўную экскурсію! – сказалі на развітанне вучні сваёй першай настаўніцы. Урок гісторыі і геаграфіі прайшоў на выдатна!



Прыгажосць і веліч нашай роднай беларускай гісторыі! Вучні 6-А класа Глыбоцкай СШ№3 – у Нясвіжскім замку.

Насця Адамовіч, вучаніца 6-А класа Глыбоцкай СШ№3 са сваёй любімай першай настаўніцай Раісай Канстанцінаўнай Рубашка ў Мірскім замку.

# Кожнае імгненне, як і Душа, непаўторнае!

**У Глыбоцкім цэнтры культуры адкрылася выстава вядомага мастака Эдуарда Мацюшонка.**

■ Уладзімір Скрабатун

У Глыбоцкім цэнтры культуры, на Дзяды, адкрылася выстава твораў вядомага мастака Эдуарда Мацюшонка. Ён паходзіць з Мнюты, бацькоўскі дом – недалёка ад задарожскага касцёла. З 1984 года жыве, працуе, творыць – у Вілейцы, выкладае сусветную мастацкую культуру і маляванне ў гімназіі «Логас», кіруе выяўленчай студыяй «Вясёлка».

Ад 1986 года бярэ ўдзел у міжнародных, нацыянальных і рэгіянальных выставах.

І, як памятаецца, гэтая выстава твораў Эдуарда Мацюшонка ўжо трэцяя, якую аўтар гэтых радкоў змог наведаць у Глыбокім.

Утульнае фае Гарадскога цэнтра культуры гэтым разам сабрала пад сем дзясяткаў аматараў мастацтва, што сведчыць аб тым – творчасць Эдуарда Мацюшонка ім блізкая, дарагая, зразумелая. На адкрыццё выставы завіталі – старшыня райвыканкама Алег Морхат і старшыня Глыбоцкага раённнага савета дэпутатаў Галіна Унуковіч.

Эдуард Мацюшонак – не толькі таленавіты мастак, але ж і такі таленавіты педагог, краязнаўца, гісторык і філасаф. Усе гэтыя якасці мастака ўвасобіліся і ў яго творах.

Ён дзясяткі хвілінаў можа прадстаўляць толькі адзін свой твор – карціну. Тут столькі сімвалізма! Кожная дробязь – мае свой сэнс. Нават сукі на дрэве могуць быць чымсьці радаводам і сімвалізаваць нашчадкаў, што выйшлі з якойсьці сям'і.

*– Вельмі важна, што ўсе мы адчуваем свае карані,* – кажа Эдуард. *– Яны трымаюць нас на зямлі не фізічна, а духоўна. У кожнага ёсць радзіма, дзе ён нарадзіўся, дзе першы раз пачуў слова «мама» і адчуў яе першы пацалунак… Гэта ўсё і ёсць радзіма,* – адзначыў мастак. *– Я жадаю, каб кожны з вас знайшоў у гэтых працах штосьці сваё.*

У сваёй творчасці мастак закранае глыбокія філасофскія тэмы. Ён з асаблівым трапятаннем згадвае бацькоў і кажа пра тое, як важна любіць сваю радзіму, ведаць яе гісторыю, шанаваць духоўныя каштоўнасці і, галоўнае, перадаць іх сваім дзецям.

Мастак захоплены творчасцю земляка Язэпа Драздовіча, які наведваў ваколіцы Задарожжа, маляваў касцёл, заходзіў у дом дзеда Эдуарда.

І творчасць Эдуарда Мацюшонка вельмі пераклікаецца з сюжэтамі Язэпа Драздовіча.

Словы і палотны Эдурда нясуць і ўнушаюць аптымізм. Мы ўсё адродзім, адбудуем! Ну хоць бы той палац Агінскіх у стылі ракако ў Ганцуе на Вілейшчыне ("Гукі паланэза").

Самы запамінальны эпізод цяперашняй выставы Эдуарда Мацюшонка, якая адкрылася на Дзяды, гэта – магчымасць прысутным тут успомніць сваіх Дзядоў, распавесці аб іх лёсе, запаліць свечку памяці. Шмат хто такой магчымасцю скарыстаўся. Усіх крануў, напрыклад, апoвяд педагога Данаты Мар'янаўны Сярогінай. Яе Дзяды працавалі ў маёнтку пана Аскеркі ў Азерцах, дзед быў яго фурманам. Сама яна даглядае магілу Аскеркаў на Копцеўцы.

Напрыканцы выставы слова ўзяў кіраўнік раёна Алег Морхат. Аказваецца, Алег Віктаравіч, калі не наўпраставы зямляк, дык блізкі сусед. Як і Эдуард Мацюшонак – хрышчоны ў задарожскім касцёле. Кіраўнік раёна захоплены творчасцю мастака і, дарэчы, як адзначыў ён – аб'ездзілі разам родныя абодвум глыбоцкія і шаркоўшчынскія мясціны. Адну карціну мастак напісаў са слоў успамінаў Алега Морхата і падараваў яму на дзень нараджэння.

Кіраўнік раёна ўручыў мастаку ганаровую грамату і каштоўныя прызы ад імя Глыбоцкага райвыканкама.



Эдуард Мацюшонак. **"Гукі паланэза"**, 1999 г.



Узнагароды мастаку – ад кіраўніцтва раёна. Глыбоцкая маляванка. Уручае Алег Віктаравіч Морхат.



Эдуард Мацюшонак. **"Н.Ю.Сіліванoвіч"**, 2013 г.

# Захаванасць вашага аўто залежыць ад вас саміх

**У 2015 годзе на тэрыторыі Глыбоцкага раёна зарэгістравана сем злачынстваў, прадметам злачынных замахаў якіх з'яўляліся транспартныя сродкі.**

■ **А.І. Гігола**, *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

Так з 12 па 13 сакавіка гэтага года былі выкрадзены 4 каўпакі з аўтамашыны, якія стаялі каля д.129Б па вул. Леніна ў Глыбокім,

■ у перыяд з 1 па 12 жніўня гэтага года каля вёскі Верхняе шляхам свабоднага доступу з аўтамабіляў выкрадзены стартары і сілавыя кабелі да акумулятарнай батарэі,

■ з 1 па 8 студзеня 2015 года праз незачыненыя вадзіцельскія дзверы аўтамабіля, які стаяў па вул. Леніна ў Глыбокім, была выкрадзена аўтамагнітола;

■ з 25 траўня па 6 чэрвеня 2015 года ў вёсцы Ломашы быў выкрадзены трамплёр, свечы запальвання, бензапомпа, правады высокага напружання, 2 паліўныя шлангі, кола;

■ 3 лютага шляхам свабоднага доступу па вуліцы Фізкультурнай у Глыбокім выкрадзены трактар з навясным абсталяваннем.

**Каб пазбегнуць крадзяжоў выконвайце наступныя правілы:**

● ніколі не пакідайце ключ у замку запальвання, нават калі вы знаходзіцеся «у двух кроках» ад машыны;

● не давярайце ключы ад машыны малазнаёмым людзям, якія могуць зрабіць з іх копію;

● па магчымасці пазбягайце паркоўкі на доўгі час у неасветленых і бязлюдных месцах; таксама будзьце асцярожныя і пры паркоўцы каля культурных цэнтраў, паркаў адпачынку і гэтак далей;

● дакументы, асабістыя рэчы, сумкі, пакеты – ніколі не пакідайце ў салоне аўтамабіля; калі вы сыходзіце – бярыце ўсё з сабой або кладзіце ў багажнік; не выкарыстоўвайце бардачок аўтамабіля для захоўвання дакументаў, а захоўвайце дакументы пры сабе;

● калі вас спыняюць незнаёмыя людзі, ніколі не выключайце запальванне і не адкрывайце дзвэрэй; усе пытанні цалкам можна вырашыць праз прыспушчанае шкло;

● не губляйце пільнасці, нават калі вы вымушаны спыніцца на час дробнага рамонту, напрыклад, замены кола;

● не пакідайце адкрытымі фортачкі ў сваім аўтамабілі;

● праверце лішні раз, перад тым як пайсці дадому, на працу ці адпачываць, ці добра зачыненыя ўсе дзверы вашага аўто;

● абсталюйце машыну супрацьугонны сістэмай;

● абсталёўвайце гараж як навяснымі, так і абавязкова ўнутранымі замкамі, тэхнічнымі сродкамі ахоўнай сігналізацыі; не пакідайце аўтатранспарт у дварах дамоў у начны час.

# На Падсвільскім вінзаводзе не далічыліся віна

## Яшчэ раз аб матэрыяльнай адказнасці

**Працоўным заканадаўствам прадугледжаны выпадкі, калі наймальніку прадастаўлена права заключаць з работнікамі, якія непасрэдна абслугоўваюць таварна-матэрыяльныя каштоўнасці (вартаўнікі, загадчыкі складамі, сховішчамі, экспедытары і г.д.), пісьмовыя дамовы аб поўнай матэрыяльнай адказнасці.**

■ **І.С. Валынец**, *пракурор Глыбоцкага раёна*

На падставе названых дагавораў работнік бярэ на сябе абавязак беражліва ставіцца да перададзеных яму на захоўванне або для іншых мэтаў матэрыяльных каштоўнасцяў і прымаць меры да прадухілення шкоды, своечасова паведамляць наймальніку аб усіх абставінах, якія пагражаюць забеспячэнню захаванасці даручаных яму каштоўнасцяў, весці ўлік, складаць і прадстаўляць ва ўстаноўленым парадку таварна-грашовыя і іншыя справаздачы аб руху і астатках каштоўнасцяў.

Разам з тым, як паказвае практыка пракурорскага нагляду, многія работнікі, добраахвотна узяўшы на сябе павышаную адказнасць у пытаннях забеспячэння захаванасці даручанай ім маёмасці, не ў поўнай меры выконваюць свае працоўныя абавязкі ў гэтай частцы, што з'яўляецца бясспрэчнай падставай для наступнага прыцягнення іх да матэрыяльнай адказнасці ў выпадку нанясення наймальніку шкоды ў выніку бяздзейнасці.

Прыкладам таму служыць грамадзянская справа, разгледжаная судом раёна ў пачатку верасня бягучага года па заяве пракурора раёна да майстра брадзільнага цэха філіяла «Падсвільскі вінзавод» Васілевіч Г.М. аб спагнанні на карысць прадпрыемства 1 млрд. 700 млн. рублёў.

Падставай для прад'яўлення пракурорам заявы паслужыў той факт, што Васілевіч Г.М. з 2008 года з'яўлялася матэрыяльна адказнай асобай у адносінах да даручанай пад яе захаванасць прадукцыі цэха і з ёй быў заключаны дагавор аб поўнай матэрыяльнай адказнасці. Праведзенай жа летам 2013 года інвентарызацыяй вінаробнага прадукту ў брадзільным цэху прадпрыемства ўстаноўлена яго нястача ў колькасці больш за 62 тысяч дэкалітраў на вышэйпаказаную суму. Пры гэтым звярнуў на сябе ўвагу факт, што папярэдняя аналагічная інвентарызацыя, праведзеная 9 месяцаў таму, разыходжанняў паміж фактычнай наяўнасцю і дакументальным пацвярджэннем, не выявіла.

Як пасля ўстаноўлена ў судовым пасяджэнні, Васілевіч Г.М. ведала задоўга да апошняй інвентарызацыі аб наяўнасці нястачы вінапрадукта, аднак ніякіх мер, як матэрыяльна-адказная асоба, да ўстанаўлення прычыны нястачы, не прадпрымала. Больш за тое, афіцыйна кіраўніцтва прадпрыемства ўведамасць пра гэта не паставіла, а, наадварот, у ходзе ранейшых інвентарызацый прадпрымала меры да ўтойвання наяўнай нястачы, што толькі пагоршыла сітуацыю.

Судом улічана матэрыяльнае становішча адказчыцы, яе пенсійны ўзрост і стан здароўя, у сувязі з чым судом прынята рашэнне аб спагнанні з Васілевіч Г.М. на карысць прадпрыемства не ўсёй сумы нястачы, а толькі 600 млн. рублёў, хоць і гэтая сума для яе практычна непад'ёмная.

Нядобрасумленна паставіўся да выканання сваіх працоўных абавязкаў і адзін з вартаўнікоў СХУП «Ломашы-Агра», у выніку чаго ў красавіку гэтага года з тэрыторыі зернесклада неўстаноўленым злачынцам выкрадзена 765 метраў сілавога меднага кабеля, чым нанесены ўрон прадпрыемству на суму амаль 8 млн. руб.

У сувязі з тым, што з гэтым вартаўніком таксама быў заключаны дагавор аб поўнай матэрыяльнай адказнасці, і ён не забяспечыў захаванасць даручанай яму маёмасці падчас ажыццяўлення вартавай аховы, пракуратура раёна да дадзенага работніка прад'яўлены іск на вышэйназваную суму ў інтарэсах сельгаспрадпрыемства, які будзе разгледжаны судом раёна ў бліжэйшы час.

Рэйды рабочых груп па кантролі працы вартавай аховы сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, якія праводзяцца рэгулярна, паказваюць, што яшчэ не зжытыя факты, калі некаторыя нядбайныя вартаўнікі дазваляюць сабе спаць падчас дзяжурства на працоўным месцы, распіваць спіртныя напоі ці ўвогуле адсутнічаць на ахоўным аб'екце, што стварае спрыяльныя ўмовы для ўчынення крадзяжоў маёмасці.

Хацелася б яшчэ раз, карыстаючыся выпадкам, нагадаць такім работнікам аб неабходнасці няўхільнага выканання сваіх працоўных і службовых абавязкаў, паколькі прычыненне шкоды наймальніку па віне работніка з'яўляецца безумоўнай падставай не толькі для спагнання з апошняга нанесенай шкоды, але і для звальнення гэтага работніка ў адпаведнасці з падпунктам 3.5 пункта 3 Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 15 снежня 2014 года №5 «Аб узмацненні патрабаванняў да кіруючых кадраў і работнікаў арганізацый».



